



# Рэгіянальная газета. Rh.by




Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

21 лютага 2014 года 8 (982)


**5 парадаў**
Як правесці Дзень мовы з карысцю.
21 лютага – Міжнародны дзень роднай мовы.
старонка 20

**Аварыя забрала жыцці чатырох чалавек**
Сярод загінулых – аднагадовае дзіця.
старонка 4

**Рака Уша чарнее з-за адходаў**
с. 21

**Як маладзечанскія футбалісты клас у Вільні паказвалі.**
с. 19

**Дзве каманды з Маладзечна возьмуць удзел у чэмпіянаце краіны?**
с. 22

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Абарона Айчыны пачынаецца з Дзяржаўнай мяжы

*Служба ў органах пагранічнай службы заўсёды была элітнай. Самыя годныя прадстаўнікі Ашмяншчыны і Астравеччыны ўжо нясуць службу па ахове Дзяржаўнай мяжы. Але многія адзначаюць 23 лютага як дзень сапраўдных мужчын, абаронцаў у самым шырокім сэнсе слова. Калектыў Смаргонскай пагранічнай групы віншуе ўсіх вайскоўцаў, грамадзян, ветэранаў і іх сем'і* ***з Днём абаронцаў Айчыны*** *– святам мужнасці, высакароднасці і гонару! Няхай з усімі цяжкасцямі будзе лёгка справіцца.*

**Смаргонская пагранічная група.**

### Ашмяны і Валожын – у турыстычным маршруце

У прыгранічных рэгіёнах Беларусі, Польшчы і Украіны пачалі праект міжнароднай тэхнічнай дапамогі "Маршруты паміж яўрэйскімі паселішчамі. Сляды яўрэйскай культурнай спадчыны ў трансгранічным турызме". У кожнай з трох краін распрацуюць адзін ўнутраны маршрут, у які ўвойдуць па 20 мястэчак, звязаных з гісторыяй і культурай яўрэяў. Мяркуецца, што ў Беларусі гэта будуць Жалудок, Навагрудак, Мір, Ружаны, а таксама Пінск або Моталь. Акрамя іх ва ўнутраны маршрут, які пройдзе праз Брэсцкую, Гродзенскую і Мінскую вобласці, уключаны Столін, Давыд-Гарадок, Пружаны, Кобрын, Гарадзішча, Радунь, Індура, Астрына, **Ашмяны**, Лунна, Іўе, Дзятлава, Слонім і **Валожын**.

### Помнік воінам-афганцам

**АШМЯНЫ.** Кіраўнік ашмянскай раённай арганізацыі "Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане" **Мікалай Лаздзін** тлумачыць, што помнік уяўляе сабой баявую дэсантную машыну. Такія машыны прымалі ўдзел у ваенных дзеяннях у Афганістане. У Ашмяны баявую машыну прывезлі з-пад Слуцка. Цяпер ідуць рэстаўрацыйныя работы, машыну фарбуюць, рыхтуюць да ўстаноўкі. Мяркуецца, што устаняванне помніка прымяркуюць да Дня Перамогі. Ён зойме месца непадалёк ад райаддзела міліцыі. Падобны помнік ужо паставілі ў Мядзеле (чытайце на 5-й старонцы).

**Аддзел інфармацыі.**



# Праблемы інтэрнатаў Смаргоні нявырашаныя



Каляж Настасі РОЎДЫ

**Эдуард Лебедзеў жыве ў інтэрнаце №22 па Маладзёжнай у Смаргоні. На здымку ён у сваім двары, дзе існуе шмат праблем: смецце, ходнікі, масток над рачулкай Оксна. Ён дамагаецца таго, каб гэтыя пытанні ўрэшце вырашылі.**

**СМАРГОНЬ. У рэдакцыю звярнуўся жыхар Смаргоні, які ўжо 15 гадоў жыве ў інтэрнаце №22 па вуліцы Маладзёжнай.**

"Вайну" з ЖКГ **Эдуард Лебедзеў** вядзе ад 2010 года. За гэты час ён дамогся таго, каб перарабілі ганак перад уваходам у пад'езд, у якім ён жыве.

– Ганак быў у жудасным стане. Прыступкі высачэзныя. Маладым яшчэ так, а калі табе 50 гадоў. Тры гады змагаўся за тое, каб усё давялі да ладу. Пандус спачатку зрабілі такі, што жах. Пісаў лісты ў ЖКГ – перарабілі. Яшчэ колькі часу за поручні змагаўся, усё казалі: "Трубы няма, дадуць трубу – зробім". А то толькі закладныя паставілі і спускайся, як хочаш.

Праўда, гэта была не адзіная праблема, якая турбавала мясцовых жыхароў.

– Дарогу для пешаходаў зрабілі, але такую, што невядома як па ёй хадзіць, бо разбітая, – працягвае спадар Эдуард. – Калі на ровары праехаць, дык увогуле можна ўсё пераламаць. І з каляскай не прайсці.

Дрэвы, якія стаяць насупраць дома, забіраюць усё святло. Аднак спілоўваць іх ніхто не хоча.

Мосцік, што побач над рачулкай Оксна, не агароджаны, адбойнікаў няма.

**Некалі даўно, гадоў сем таму, быў выпадак, калі чалавек проста зваліўся ў рачулку, што побач з нашым інтэрнатам.**

З такімі ходнікамі, якія мы маем, у бліжэйшую краму даводзіцца ісці проста па праезнай частцы.

Але і гэта яшчэ не ўсе праблемы, якія турбуюць жыхароў інтэрнатаў. Літаральна ў дзвюх хвілінах хады, за дзіцячай пляцоўкай, якая месціцца ў двары, утварылася натуральная звалка. Смецце на кожным кроку і відавочна, што даўным-даўно ніхто не прыбіраў.

– Тут дакладна некалькі гадоў гэтая звалка існуе, – кажа спадар Эдуард. – Калі я ў чарговы раз пайшоў у райвыканкам, каб вырашылі праблемы, мяне накіравалі да начальніцы жыллёва-камунальнага аддзела ЖКГ **Алены Атцецкай**. І яна паабяцала ўсё вырашыць: дрэвы абрэзаць, смецце прыбраць. Месяц праходзіць, другі, а ўсё ні слыху ні дыху. Зноў да іх пайшоў. Праз некалькі тыдняў прыехалі: падрэзалі некалькі кусцікаў ды прыбралі тут, пад домам на беразе, некалькі паперак, што валяліся. І паехалі. Гэта яны так усё зрабілі?!

**Раней інтэрнаты па Маладзёжнай належалі Смаргонскаму заводу аптычнага станкабудавання. Апошнія сем гадоў яны знаходзяцца на балансе ЖКГ.**

**Настасся РОЎДА.**

Працяг на 3-й старонцы.
Больш фота на сайце Rh.by

СУСТРЭЧЫ

# З гісторыяй ПТВ можна пазнаёміцца ў музеі

**МАЛАДЗЕЧНА. Музей гісторыі прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, які працуе ў Маладзечанскім дзяржаўным каледжы, 14 лютага запрасіў на ўрачыстую сустрэчу былых выкладчыкаў і выпускнікоў.**

На ўрачыстасці прысутнічалі выпускнікі мінулых гадоў. Яны не проста адгукнуліся на запрашэнне прыняць удзел у адкрыцці музея, але і з задавальненнем падзяліліся ўласнымі рэчамі, якія ўвайшлі ў экспазіцыю музея.

Першую экскурсію па музеі правяла **Наталля Сянько**, выкладчыца грамадскіх дысцыплін.

У музеі стэнды аформлены такім чынам, што знаёмяць кожнага прысутнага з гісторыяй трох навучальных устаноў горада: ПТВ №№ 21, 87 і 135 з даты іх заснавання да таго моманту, як адбылася рэарганізацыя навучальных устаноў.

Першых спецыялістаў вучылішча №21 (тады будаўнічае вучылішча №13) выпусціла ў 1958 годзе. Большасць выпускнікоў накіравалі ў горад Новакузнецк Кемераўскай вобласці. Наталля Уладзіміраўна летась звярнулася ў новакузнецкую газету з просьбай адшукаць першых выпускнікоў. І вось нядаўна адтуль прыйшоў першы ліст.

На адкрыцці музея прысутнічалі адны з першых выпускнікоў вучылішча **Вікенцій Лятун**, палкоўнік КДБ у адстаўцы. Вікенцій Іосіфавіч назваў вучобу ў ПТВ сапраўднай пуцёўкай у жыццё, **Васіль Рысік**, кавалер ордэна Дружбы народаў. Васіль Паўлавіч пасля заканчэння ПТВ працаваў брыгадзірам мантажнікаў. Брыгада Васіля Рысіка пабудавала шмат будынкаў на тэрыторыі Мінскай вобласці. У іх ліку АТС у Маладзечне, школа ў Валожыне, Заслаўі, Старых Дарогах і шмат іншых будынкаў.

На стэндзе, якія прысвечаны гісторыі ПТВ №21, шмат фотаздымкаў, дакументаў, грамат, дыпломаў, уласных рэчаў, якія належалі і дырэктару ПТВ **Аляксандру Джураву**, і супрацоўнікам, і былым выпускнікам, якімі ганарыцца ПТВ.

Сярод здымкаў маю ўвагу прыцягнуў такі, на якім сфатаграфаваны вядомы дыктар Юры Левітан. На маё пытанне, Наталля Сянько адказала, што Юры Левітан прыязджаў у 1977 годзе на творчую сустрэчу з навучэнцамі ПТВ №21.



Фота Наталлі ТУР.

Ля стэнда музея першы выпускнік ПТВ №13 Вікенці Лятун.

Выпускнік 1966 года ПТВ №87 **Леанід Русак**, які таксама прысутнічаў на адкрыцці музея, расказаў, што пра пошукі экспанатаў для музея гісторыі вучылішчаў даведаўся з публікацыі ў "Рэгіянальнай газеце". І перадаў у дар музею выразкі з газет, фотаздымкі з уласнага архіва, а таксама білет навучэнца і дыплом з адзнакай.

**Даніл Таўкень**, выпускнік вучылішча №87, перадаў музею ганаровыя граматы, медаль "Ветэран працы". Разам з Леанідам Русаком яны не раз прыходзілі ў музей, дапамагалі ствараць экспазіцыю. Былі на сустрэчы і тыя, хто наведаў музей упершыню.

**Ала Салаўёва**, адна з першых выпускніц вучылішча, цяпер жыве ў Смаргоні, але яна таксама дапамагала папаўняць фонды музея сваімі граматамі, значкамі, дыпломамі і іншымі рэчамі.

Асобны стэнд у музеі прысвечаны выпускніку ПТВ №135 опернаму спеваку **Уладзіміру Аляксандровічу**. У гасцявой кнізе гэтага вучылішча ў 1980-2000 гады пакінулі свае аўтографы праўнук Аляксандра Пушкіна Грыгорый Пушкін, рэжысёр Наталля Бандарчук, кампазітар Эдуард Ханок і іншыя вядомыя асобы.

**– Каму належала ініцыятыва стварыць музей?** – пытаюся ў дырэктара Маладзечанскага прафесійна-тэхнічнага каледжа **Дзмітрыя Богдана**:

– Кажучы па праўдзе, ідэя стварэння музея не была выпадковай або нейкай новай. Матэрыялы для музея збіраліся цягам дзесяцці год. І адкрыццём можна лічыць дзень 14 лютага ўмоўна, таму што музей працаваў і раней. Нашы навучэнцы ўжо наведвалі яго. Мы прымеркавалі адкрыццё музея да даты адкрыцця ПТВ №13, якое адбылося ў лютым 1958 года.

**– Якім чынам дапаўняецца экспазіцыя музея?**

– Вядома, дзякуючы неабыякавасці нашых супрацоўнікаў. Наталля Сянько прыкладае шмат намаганняў, каб знайсці былых выпускнікоў і каб у гісторыі нашай установы не засталося белых плямаў. У яе планах – выставіць у экспазіцыі музея першую калекцыю адзення Тэатра мод, за якую навучэнцы і выкладчыкі ПТВ-135 атрымалі "Залатыя нажніцы" на конкурсе мадэльераў у Маскве.

Працуе ў нас і **Васіль Іванчанка**, які пільна сочыць за тым, каб усе рэчы захоўваліся ў музеі. Вось зусім нядаўна, калі нам у чарговы раз змянілі назву, я загадаў старую шыльду зняць і перадаць у музей. Дзяўчаты-супрацоўніцы кажуць, што не могуць знайсці шыльду. А аказалася, Васіль Іванчанка даўно занёс яе ў музей.

**– Хто будзе наведнікамі вашага музея?**

– Вядома ж, нашы навучэнцы. Ім проста неабходна ведаць, што ва ўстанове, у якой яны вучацца, ёсць свая гісторыя, якую стваралі знакамітыя людзі. Хочацца, каб музей наведвалі і былыя выпускнікі. Мне вельмі прыемна чуць, калі нехта з наведнікаў музея пазнае на фотаздымках сябе або сваіх знаёмых. І мы рады бачыць усіх, каго цікавіць гісторыя прафтэхадукацыі Маладзечаншчыны. Мы адкрытыя для супрацоўніцтва.



Наталля ТУР.
E-mail: turenok_08 @mail.ru

КОНКУРСЫ

# Фестываль "Маладзечна-2014" набліжаецца

**МАЛАДЗЕЧНА. Абласны адборачны тур XIV Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2014" адбудзецца 19 лютага.**



Фота з асабістага архіва Наталлі ЛАМАКІ.

Удзельніца конкурсу Наталля Ламака.

**Дзмітры Сушко**, загадчык мультымедыйнага сектара і кіраўнік творчай лабараторыі маладых выканаўцаў Мінскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці, распавёў "Рэгіянальнай газеце":

– У абласным адборачным туры прымуць удзел 23 выканаўцы з усёй Мінскай вобласці. Ад Маладзечна трое выканаўцаў. Гэта **Марк Войтка, Наталля Ламака і Артур Міхайлаў.** Валожын прадставіць **Анастасія Шугляк.** У складзе журы будзе восем чалавек, у яго ўвойдуць выкладчыкі, музыканты, спецыялісты з усёй вобласці. У фінал, які пройдзе падчас фестывалю "Маладзечна-2014" сёлета ў чэрвені, выйдуць толькі па трое ўдзельнікаў ад кожнай вобласці.

Мы пагутарылі з удзельніцай ад Маладзечна **Наталляй Ламакай**:

– На адборы я буду выконваць дзве песні на беларускай мове, адна з іх – прэм'ера "Мы не вернемся" на словы Таццяны Мушынскай, кампазітар Алена Атрашкевіч. Мне пашанцавала выканаць аўтарскую песню. Другая песня "Творыць Бах".

**– Гэта першая ваша спроба ўдзелу ў гэтым конкурсе?**

– У мінулым годзе я ўдзельнічала ў адборы, але не прайшла. Ведаючы ўзровень гэтага конкурсу, магу сказаць, што слабых сапернікаў у ім няма. Я знаёмая з удзельнікамі ад Маладзечна, з Артурам Міхайлавым і Маркам Войткам. Яны вельмі сур'ёзныя і моцныя сапернікі. Артур Міхайлаў ужо меў вопыт удзелу ў гэтым конкурсе, Марк Войтка пераможца шматлікіх конкурсаў, у яго цудоўны голас.

**– Хто будзе вас падтрымліваць падчас конкурсу?**

– За мяне будуць хвараць усе мае родныя і блізкія, асабліва бацькі. Я заўсёды адчуваю іх падтрымку. Гэта надае мне сілу і ўпэўненасць. І, канешне ж, мае выкладчыкі. Да адбору ў конкурсе мне дапамаглі рыхтавацца Алена Атрашкевіч, Дзмітры Сушко і, вядома ж, кіраўнік студыі "Жывы гук", у якой я займаюся з дзяцінства, **Алеся Ушакова**.

Я ўдзельнічала ў многіх конкурсах і праектах, былі поспехі, перамогі і расчараванні. Але я не спыняюся на дасягнутым. Улічыла ўсе памылкі з мінулага адбору, папрацавала над рэпертуарам. Я веру ў поспех і перамогу. Мару трапіць у тройку фіналістаў і, вядома ж, перамагчы! Хварэйце за мяне! Трымайце кулачкі!

Фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне ўпершыню адбыўся ў 1993 годзе.

Гран-пры тады атрымала артыстка Алена Саўленайтэ. У 1995 годзе фестываль адбыўся не ў Маладзечне, а ў Мінску. У 1996 годзе адмянілі конкурс маладых выканаўцаў, але, на шчасце, толькі на адзін год. У 2001 годзе фестывалю надалі статус нацыянальнага. У 2009 годзе фестываль доўжыўся ўсяго адзін дзень. Да 2011 года фестываль праходзіў раз у два гады, ад 2011 стаў штогоднім і з гэтага ж года ладзіцца конкурс маленькіх выканаўцаў.

У 2013 годзе ўпершыню за ўсю гісторыю не прагучала візітная картка фестывалю – песня "Маладзечна" Ігара Паліводы на словы Леаніда Пранчака.

На фестывалі гучыць толькі беларускае слова, шырока прадстаўлена нацыянальная паэзія і музыка розных пакаленняў. Ладзяцца выставы і спектаклі. У розныя гады менавіта на гэтым фестывалі загучалі імёны Ірыны Дарафеевай, Наталлі Тамелы, Наталлі Кудрынай (Венеры), Вікторыі Алешкі, Ларысы Грыбалёвай, Дзмітрыя Качароўскага. Маладзечанцы двойчы за гісторыю фестывалю станавіліся ўладальнікамі Гран-пры: Алеся Кульша ў 2007 годзе і Аляксандр Салаўёў у 2009. Дарэчы, Аляксандр Салаўёў пакуль апошні ўладальнік Гран-пры. З 2010 па 2013 гады вышэйшай ўзнагароды не атрымаў ніхто.

**Наталля ТУР.**

**Калі газета рыхтавалася ў друк, стала вядома, што ў фінал выйшлі двое маладзечанцаў: Наталля Ламака і Артур Міхайлаў.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Праблемы інтэрнатаў Смаргоні нявырашаныя



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Мост над рачулкай Оксна, што цячэ побач з інтэрнатам №22 па вуліцы Маладзёжнай. Аднойчы тут ужо здарылася трагедыя – чалавек зваліўся ў рэчку і загінуў.**

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*

Начальніца жыллёва-камунальнага аддзела ЖКГ Алена Атцецкая пасля скаргі спадара Эдуарда прыязджала да інтэрната №22 па Маладзёжнай:

– Вырашаць праблемы будзем адназначна. Сёлета 17 лютага прынялі рашэнне па высечцы старых непрыгожых дрэў. Будзем іх спілоўваць на тэрыторыі ад інтэрната да Смаргонскай цэнтральнай раённай бальніцы. Гэта вялікі кавалак працы. Аднак дрэвы, што побач з домам №22, мы чапаць не будзем. Яны маладыя і дастаткова далёка ад вокнаў.

Дарогу для пешаходаў ад інтэрната рамантаваць будзем, яна сапраўды ў дрэнным стане. Аднак, па-першае, на гэта яшчэ трэба знайсці сродкі, а па-другое, дачакацца спрыяльнага надвор'я. Бо цяпер няма сэнсу ліць там бетон ці класці асфальт.

Побач з домам звалкі няма. Смецце ёсць у самой рачулцы. Аднак рэчышча рэк мы чысцім штогод вясной, калі пачынаюцца суботнікі. Цяпер у ледзяную ваду ніхто не палезе. Нам вельмі дапамагае з гэтым экалагічная служба. Шмат рачулак трэба чысціць, аднак не паўсюль так проста ўлезці. Смецце ж з'яўляецца вельмі хутка, што ж зробіш?

Адбойнікі побач з дарогай на мосце праз раку Оксна зрабіць таксама не так проста. Трэба каб спецыялізаваная арганізацыя цалкам абследавала мост. Затым можна рабіць выснову, які рамонт патрэбны: бягучы ці капітальны. На сёлета мы запланавалі рамонт двух цэнтральных мастоў у горадзе. Гэта шмат грошай. Дорага каштуюць праекты.

Увогуле мы ўжо шмат рамонтаў зрабілі для інтэрнатаў па Маладзёжнай: уцяплілі 5-я паверхі дамоў, усталявалі дзверы з дамафонам, пліты і сантэхніку памялі і іншае. З апошняга – усталявалі новую сучасную дзіцячую пляцоўку. Бо калі нам перадалі інтэрнаты, яны былі не ў самым лепшым стане.



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

# Смецце ў Насілаве прыбралі

**МАЛАДЗЕЧНА. Каля кантэйнераў у Насілаве смецце прыбралі, а таксама змянілі графік яго вывазу.**

Пасля публікацыі "Хацелі б такі від з акна?" у №5 за 31 студзеня філіял УП "Камунальнік" "Раённая ЖКГ" даслаў рэдакцыі ліст з адказамі на пытанні, якія паднята газета.

## Як часта вывозяць камунальныя адходы

Цвёрдыя камунальныя адходы ў Насілаве вывозяць па графіку. Яго ўзгаднiў старшыня Цюрлёўскага сельсавета і зацвердзіў начальнік філіяла раённай жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Графік склалі паводле схемы абыходжання з камунальнымі адходамі, якую зацвердзіў Маладзечанскі райвыканкам.

Аднак у студзені сапраўды былі парушэнні графіка збору смецця з-за неспрыяльнага надвор'я.

Каб палепшыць якасць абслугоўвання жыхароў Маладзечанскага раёна, ад лютага перагледзелі графік збору смецця ў блізкіх да горада населеных пунктах, сярод якіх Насілава. Вырашылі часцей вывозіць смецце з кантэйнераў.

**Цяпер у Насілаве смецце вывозяць тройчы на тыдзень: у панядзелак, сераду і пятніцу.**

## Як прыбіраюць пляцоўкі ля кантэйнераў

Прыбіраць кантэйнерныя пляцоўкі ад смецця – адзін з абавязкаў грузчыкаў. Яны павінны гэтым займацца, калі аб'язджаюць на спецтранспарце па графіку, акрамя буйных адходаў.

На момант публікацыі артыкула кантэйнерныя пляцоўкі ў Насілаве прыбралі па-за графікам. За іх неналежны санітарны стан адказных прыцягнулі да дысцыплінарнай адказнасці.

## Ці можна переставіць кантэйнеры

Спецыялісты філіяла разглядаюць скаргі і прапановы па колькасці і месцах для кантэйнераў. Па магчымасці задавальняюць іх, улічваючы санітарныя правілы і нормы.

## Пытанні мясцовым жыхарам

Жыхары не заўсёды выконваюць патрабаванні заканадаўства па абыходжанні са смеццем, а таксама ўмовы дагавора па вывазу адходаў.

1. З-за таго, што людзі самавольна выкідаюць у кантэйнеры некамунальныя адходы, а будаўнічыя і раслінныя, перапаўняюцца кантэйнеры і ламаецца спецтранспарт.

2. Людзі выкідаюць смецце ля кантэйнераў, нават калі кантэйнеры не запоўненыя.

3. Выкідаюць у кантэйнеры для смецця другасную сыравіну.

Работнікі раённай ЖКГ дадаюць напрыканцы ліста, што спецыялісты пастаянна тлумачаць людзям, як правільна абыходзіцца са смеццем.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

| Курсы валют НБ РБ | 13.02 руб. | 20.02 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 690,00 | **9 720,00** |
| Еўра | 13 210,00 | **13 370,00** |
| Злоты | 3 168,27 | **3 215,67** |
| Літ | 3 826,26 | **3 872,90** |
| Расійскі рубель | 279,00 | **273,00** |
| Грыўня | 1 108,06 | **1 077,01** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9640/9700 | **9720/9790** |
| Еўра | 13120/13220 | **13350/13470** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 12.02 | 19.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 105500 | **108200** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 58050 | **45550** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 25800 | **25800** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 80000 | **88000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28500 | **28500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **93000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9500 | **9700** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9500 | **9500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13000 | **13500** |
| **Алей** | 12000 | **14000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7500 | **7500** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 10000 | **10000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6200 | **6200** |
| **Капуста**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Морква**, 1 кг | 6500 | **6000** |
| **Буракі**, 1 кг | 6000 | **6000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **21500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13000 | **13500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 16500 | **14900** |
| **Памідоры**, 1 кг | 24000 | **23800** |
| **Агуркі**, 1 кг | 26000 | **29700** |
| **Перац**, 1 кг | 30500 | **32000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 24900 | **22800** |
| **Бананы**, 1 кг | 13000 | **13000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9000 | **8600** |
| **Грушы**, 1 кг | 17900 | **18400** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13500 | **13500** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 42000 | **42000** |
| **Бульба**, вядро 5 л | 20000 | **20000** |
| **Сала**, 1 кг | 55000 | **55000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |



Фота mvd.gov.by.

На пярэднім плане "Фольксваген-Бора", чатыры пасажыры якога загінулі ў аварыі. За ім – "Опель-Зафіра".

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Аварыя забрала жыцці чатырох чалавек

**ВІЛЕЙКА. МЯДЗЕЛ. Аварыя здарылася на трасе Мінск–Мядзел паблізу вёскі Ерхі Вілейскага раёна ў нядзелю, каля 18 гадзін вечара.**

Пра ДТЗ распавёў "Рэгіянальнай газеце" намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**, які выязджаў на месца.

Аўтамабіль "Фольксваген-Бора", на якім ехалі пяць чалавек, занесла на праезнай частцы і бокам вынесла на сустрэчную, па якой рухаўся "Опель-Зафіра". Усе спробы кіроўцы прадухіліць страшнае здарэнне апынуліся безвыніковымі. Адбылося сутыкненне.

За "Опелем" рухаўся "Фольксваген-Пасат". Кіроўца, мядзяльчанін, узяў улева і толькі крыху зачапіў "Опель".

У ДТЗ пацярпелі сем чалавек. Чацвёра загінулі, усе з "Фольксвагена-Бора": кіроўца, яго родны брат, жыхар Мінска, жонка брата і іх малое дзіця. Хлопчыку 12 снежня споўніўся год.

Васьмігадовая старэйшая дачка загінулых мужа і жонкі цяпер у цяжкім стане знаходзіцца ў рэанімацыі ў Маладзечанскай дзіцячай бальніцы.

"Хуткая" забрала ўсіх, каму можна было дапамагчы. Мужчына і жанчына, жыхары Мядзельшчыны, якія ехалі ў аўтамабілі "Опель-Зафіра", цяпер у Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы.

Здарэнне магло адбыцца з-за дрэннага стану гумы. Пярэднія колы аўтамабіля "Фольксваген-Бора" былі ў нармальным стане, а заднія – зношаныя.

– Хутчэй за ўсё, менавіта гэта і стала прычынай здарэння, – лічыць Андрэй Дударчык. – Таму што дарожнае пакрыццё там нармальнае.

На месца аварыі выязджала не толькі аператыўная група, там былі начальнік і супрацоўнікі Вілейскага РАУС, супрацоўнікі вілейскага Следчага камітэта, супрацоўнікі абласных структур. Толькі ў чатыры гадзіны раніцы міліцыя і Следчы камітэт скончылі аператыўныя дзеянні.

### Каментуе відавочца

– Былі складаныя ўмовы надвор'я. Снег перастаў, але дарога была такая, што ўсе ехалі па каляіне, – распавёў інтэрнэт-парталу Onliner.by **Дзмітры**, які стаў відавочцам ДТЗ. – "Фольксваген-Бора" рухаўся на машыне наперадзе мяне. Хуткасць была нізкай. У нейкі момант гэты аўтамабіль занесла, разварнула, ён апынуўся на сустрэчнай паласе і ўпёрся ў "адбойнік". Машына стала ўпоперак руху. У наступны момант у яе ўрэзаўся сустрэчны "Опель", кампактвэн. А яго зачапіў "Фольксваген-Пасат".

Па словах Дзмітрыя, людзі з "Опеля" змаглі выбрацца з салона самастойна. Яны літаральна выпалі з аўтамабіля. Кіроўца, па словах сведкі аварыі, не мог дыхаць, нібы ў яго прыхапіла сэрца.

– Мы ж адразу кінуліся да "Фольксвагена". Удар прыйшоўся роўна пасярэдзіне салона. Была злавесная цішыня, ішла пара з-пад капота, – дапоўніў Дзмітры. – Дзверы выломлівалі ўтрох-учатырох. Першае, што кінулася ў вочы, – у салоне не было дзіцячых аўтакрэслаў. Узялі дзіця, яму на выгляд годпаўтара. Думалі, можа, неяк можна выратаваць. Тэлефанавалі ў "хуткую" з пытаннем, што рабіць. Прычым звярталіся ў першы раз каля 18:30, другі – хвілін праз 20-25. Дактары яшчэ ехалі. Але там сказалі: чакайце. Хвілін праз 15 пасля аварыі застагнала дзяўчынка, якая знаходзілася пад целам жанчыны. Калі б яе не дасталі, яна магла б задушыцца. Напярэдзе знаходзіліся двое мужчын, яны былі прышпіленыя, але там без шанцаў – крэслы былі моцна змятыя. Яшчэ раз хачу звярнуцца да ўсіх бацькоў: купляйце аўтакрэслы, калі возіце дзяцей ў аўтамабілі!

**Настасся РОЎДА.**

ЗДАРЭННІ

# П'янка скончылася смерцю

**СМАРГОНЬ. Здарэнне адбылося 3 лютага каля 17.00 у Смаргоні.**

П'янка са знаёмымі трагічна скончылася для 54-гадовага жыхара Смаргоні.

Мужчыну моцна збілі ў яго ж кватэры і пакінулі паміраць. У паўпрытомным стане пацярпелага знайшоў таварыш, які зайшоў у госці пасля працы.

Як распавёў начальнік Смаргонскага РАУС **Андрэй Рэзін**, мужчыну адразу выклікалі "хуткую" і даставілі ў бальніцу, дзе зрабілі аперацыю. Аднак выратаваць пацярпелага не ўдалося.

Высветлілася, што яго жорстка збіў 21-гадовы сабутэльнік. Яны разам выпівалі ў кампаніі дзяўчыны. У нейкі час у яе зазваніў тэлефон. Нецвярозы мужчына ў гэты час нешта мармытаў пра сваё і гэтым самымперашкаджаў весці ёй размову. Жадаючы, каб сабутэльнік змоўк, хлопец некалькі разоў ударыў яго па твары, пасля чаго кінуў на падлогу і стаў біць нагамі.

Падчас размовы з міліцыяй падазраваны ў здзяйсненні злачынства малады чалавек быў настолькі п'яны, што заснуў. Відавочна, ён і не падазраваў пра тое, што на яго сумленні жыццё чалавека.

**Ігар БЕЛАЗЕРАЎ, супрацоўнік прэс-службы УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Катаваў гарачым прасам знаёмага і яго жонку

**ВАЛОЖЫН. 25-гадовы Віталь думаў, што яго знаёмы Сяргей скраў тэлефон.**

Вечарам 29 жніўня Віталь з бацькам, Чаславам, а таксама будучымі пацярпелымі Сяргеем і яго жонкай Вольгай пілі разам з гаспадаром дома Аляксандрам. Раптам паміж двума маладымі мужчынамі ўзнік канфлікт з-за тэлефона "Нокіа 105", які знік некалькі тыдняў таму. Віталь вырашыў, што яго скраў Сяргей, хаця ніякіх доказаў не меў.

Віталь ударыў Сяргея, павaліў на падлогу, потым узяў прас і пачаў прыкладаць да яго цела. Сын папрасіў бацьку ўключыць прас. Не менш за чатыры разы ён прыкладаў гарачым прасам да галавы, тулава і рук меркаванага злодзея. Віталь атрымаў тэрмічныя апёкі 2-3 ступені да 8% плошчы цела.

Маладзён адразу ж ударыў і Вольгу і таксама не менш за чатыры разы прыкладаў гарачы прас да яе твару, тулава, рук і ног. Яна атрымала апёкі 2-3 ступені на не менш за 10% цела.

Тэлефон "Нокіа 105", з-за якога Віталь катаваў гарачым прасам дваіх, каштуе каля 300 тысяч рублёў. Ён нібыта належаў бацьку, які зрабіў загадзя ілжывы данос міліцыі, быццам Сяргей скраў тэлефон. Хаця мужчына ведаў не толькі тое, што Сяргей тэлефон не краў, але і тое, што гаспадар тэлефона зусім не ён. Аказваецца, што па дакументах тэлефон яму і належаў, аднак фактычна ён аддаў "Нокіа 105" гаспадару дома Аляксандру.

### Пацярпелыя лячыліся чатыры месяцы

Суд прызнаў Віталя вінаватым у нанясенні менш цяжкага цялеснага пашкоджання, якое выклікала расстройства здароўя да чатырох месяцаў. Суд прызначыў пакаранне – пазбаўленне свабоды на два гады строгага рэжыму.

Яго бацьку суд прызнаў вінаватым у дапамозе падчас наўмыснага нанясення цялесных пашкоджанняў. Пакаранне – пазбаўленне свабоды на паўтара года з адтэрміноўкай на адзін год.

Сына і бацьку будуць прымусова лячыць ад хранічнага алкагалізму.

Віталю 25 год. Жыве ў вёсцы Брохаўшчына Маладзечанскага раёна, не працуе, разведзены. У 19 год быў асуджаны за наўмыснае знішчэнне ці пашкоджанне маёмасці і прыгавораны да пяці год абмежавання свабоды ў выпраўленчай установе адкрытага тыпу.

У 21 год за ўхіленне ад адбывання пакарання яго асудзілі. Ён яшчэ не адбыў тэрмін па першай судзімасці, таму па сукупнасці прыгавораў суд прызначыў пакаранне – два гады пазбаўлення свабоды. Тэрмін, які ён не паспеў адбыць, замянілі на выпраўленчыя работы з утрыманнем 15% даходу на сем месяцаў.

**Андрэй ЖУКОЎСКІ, памочнік пракурора Валожынскага раёна.**

СЛУЖБА 101

# Гарэла машына

**ВІЛЕЙКА. Пасля дзвюх гадзін ночы 14 лютага МНС паведамілі пра тое, што гарыць аўтамабіль па вуліцы Зарэчнай у Вілейцы.**

"Сітраэн С5" стаяў каля плота.

– Дзякуючы таму, што паведамленне пра загаранне паступіла хутка, машыну здолелі ўратаваць, – расказаў інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Казакевіч**. – У машыны згарэла правае кола спераду, пашкоджанае правае крыло.

Іншамарка належыць жыхару Маладзечна. Ён прывёз у Вілейку свайго знаёмага і застаўся тут начаваць.

Папярэдняя прычына здарэння – падпал. Аднак дакладную прычыну ўстановіць следства.

**Аддзел інфармацыі.**

# Маці з дачкой патушылі свой дом у Снежкаве

**ВІЛЕЙКА. Раніцай 12 лютага загарэўся жылы дом у вёсцы Снежкава ля Вілейкі.**

Паведамленне пра гэта паступіла ў 5.30, распавёў інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзмітры Кляшняк**.

Загаранне заўважыла дачка гаспадыні, і разам яны патушылі яго. У выніку абгарэў шклопакет, аплаўлены сайдынг на плошчы ў чатыры квадратныя метры, пашкоджаная канапа, якая стаяла на вуліцы.

Гаспадыня патэлефанавала адразу ў райаддзел унутраных спраў, бо ўзнікла падазрэнне на падпал.

Аднак устаноўлена, што яго не было. Верагодна, прычына – неасцярожнасць пры курэнні. Загаранне магло ўзнікнуць ад акурка, які вечарам кінуў госць на канапы. Адтуль і пачалося ўзгаранне.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота blog.joins.com.

Калі дзецям дазваляюць падоўгу сядзець за камп'ютарам, то хутка ў іх развіваецца залежнасць і ў падлеткавым узросце ператвараецца ў сапраўдную бяду. Трапляюць у палон залежнасці ад камп'ютара і дарослыя.

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Камп'ютар: як не стаць залежным

**Усё часцей звяртаюцца бацькі па дапамогу з праблемай: "Мой сын не можа жыць без камп'ютара, планшэта", "Усе грошы ідуць на аплату тэлефона".**

Каб зразумець усю сур'ёзнасць, дастаткова толькі пералічыць наступствы: нізкая паспяховасць у школе, пагаршэнне адносін з бацькамі і сябрамі, змяншэнне інтарэсаў, сыход ад рэальнасці і іншыя. У навуковай літаратуры гэта называюць адыктыўныя паводзіны, што значыць заганная схільнасць.

З-за яе чалавек сыходзіць ад рэальнасці. Мяняецца псіхічны стан, пастаянна трымаецца ўвага на асобных прадметах ці занятках. Гэты працэс настолькі захоплівае, што пачынае кіраваць жыццём чалавека, і той становіцца бездапаможным перад сваёй схільнасцю.Ён не толькі не вырашае важныя задачы, але і перастае развівацца як асоба.

Ужо даказана, што залежнасць павялічвае пакуты, пачуццё адзіноты, дапамагае дэпрэсіі. **Ёсць чатыры прыкметы залежнасці ад інтэрнэта:**

- нясцерпнае жаданне праверыць e-mail;
- пастаяннае жаданне выйсці ў інтэрнэт;
- скаргі блізкіх, што чалавек праводзіць шмат часу ў інтэрнэце;
- скаргі блізкіх, што чалавек аддае шмат грошай на інтэрнэт.

Зносіны з сябрамі па сетцы даюць магчымасць знайсці віртуальнага суразмоўцу, практычна яны цалкам задавальняюць. Але пры гэтым паміж абодвума нязкіх абавязацельстваў няма і сувязь знікае ў любы момант. Камп'ютарная залежнасць прыводзіць да таго, што чалавек грэбуе асабістымі кантактамі ў рэальным жыцці.

Для падлетка захапленне зносінамі ў інтэрнэце надзвычай важнае. Кола іншых інтарэсаў звужаецца. Увесь вольны час і кішэнныя грошы трацяцца на камп'ютарныя аксесуары. Часта здараецца, што падлеткі застаюцца галоднымі, адкладаючы бацькоўскія грошы на абед, каб набыць нейкую дэталь для мадэрнізацыі камп'ютара.

Засынаць чалавеку цяжка. Калі бацькі абмяжоўваюць час за камп'ютарам, дзеці адчуваюць спустошанасць. Зносіны па інтэрнэце становяцца звышкаштоўным захапленнем. Яны адвочна шкодзяць іншым заняткам: вучобе, зносінам з рэальнымі людзьмі.

### Камп'ютар як наркотык

Да перагібаў часцей за ўсё прыводзяць празмернае захапленне камп'ютарнымі гульнямі, ненармаваная праца ў інтэрнэце, працяглы прагляд высокакантрасных малюнкаў з мноствам дробных рознакаляровых дэталяў. У гэтым плане злоўжыванне камп'ютарам – свайго роду наркотык. Ён дрэнна ўздзейнічае і на дзіця, і на дарослага чалавека.

### Адбіваецца на здароўі

Калі заўзятага карыстальніка камп'ютарам адарваць ад любімага занятку, ён будзе падобны на наркамана ў стане "ломкі".

Існуе шэраг псіхалагічных і фізічных сімптомаў, характэрных для інтэрнэт-залежных. Псіхалагічныя сімптомы: эйфарыя за камп'ютарам, немагчымасць спыніцца, грэбаванне сям'ёй і сябрамі, адчуванне пустаты, дэпрэсіі, раздражнення без камп'ютара, хлусня працадаўцам, праблемы з вучобай.

З'яўляюцца і саматычныя праблемы: парушэнні зроку, паслабленне імунітэту і хваробы з-за сядзячага ладу жыцця (гемарой і іншыя). Залішні ўзровень электрамагнітных палёў і выпраменьванняў правакуе анкалагічныя захворванні. У цяжарнай жанчыны ўзрастае рызыка выкідышу і паталогіі дзіцяці.

Моцна пашкоджваецца і апорна-рухальны апарат. Акрамя астэахандрозу пазваночніка, з'яўляюцца прафесійныя захворванні. Пераважна гэта хваробы з-за нязручнага становішча рук пры працяглай працы на няправільна размешчанай клавіятуры:

- Запаленне сухажылляў кісцяў, запясцяў і пляча);
- Запаленне сухажылляў вялікага пальца);
- Запаленне сухажылляў перадплечча і локцевага сустава;
- Ушчамленне нерва рукі.

### Што рабіць бацькам

Пакутуюць таксама цэнтральная нервовая сістэма і псіхіка.

Усё пачынаецца быццам бы з дробязных, бяскрыўдных камп'ютарных гульняў, да якіх так лёгка прывыкнуць!

**Паважаныя бацькі, заўсёды звяртайце ўвагу:**

- на інтарэсы і захапленні сваіх дзяцей;
- на што дзіця аддае ўласныя грошы?
- з кім сябруе;
- абмяжуйце гульні перад сном.

Гэтыя правілы дазволяць своечасова прадухіліць цяжкія наступствы.

**Алена КАМІСАРУК,**
**псіхолаг Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацзабеспячэння насельніцтва.**

ПАМЯЦЬ

# Устанавілі баявую машыну дэсанта

**МЯДЗЕЛ. На мінулым тыдні, напярэдадні Дня памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў, у райцэнтры з'явілася БМД-1 (баявая машына дэсанта-1).**

Размясцілі яе на ўездзе ў горад, насупраць пажарнай часці – якраз ля памятнага знака воінам-інтэрнацыяналістам. Ініцыятарам устанаўлення тэхнікі стаў старшыня раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане" **Юры Мяркулаў**. Вось што ён расказаў:

– Падчас устаноўкі памятнага знака ў кастрычніку мінулага года падзяліўся гэтай ідэяй са старшынёй райвыканкама **Іллёй Шацько**. Расказаў, што такая машына тут гарманічна глядзелася б, дапаўняла памятны знак. Ідэю падтрымалі. Райвыканкам напісаў хадайніцтва на імя Міністра абароны, у якім прасіў выдзеліць такую тэхніку ў азнаменаванне 25-годдзя вываду савецкіх войскаў з Афганістана. Дакумент прайшоў неабходныя ўзгадненні, Міністэрства абароны пайшло насустрач, і нам выдзелі тэхніку з базы захоўвання ў Любанскім раёне.

Гэта машына сімвалізуе мужнасць не толькі воінаў-інтэрнацыялістаў, але абаронцаў Айчыны усіх войнаў. Таму прымацуем тут шыльдачку "Абаронцам Айчыны". Ля баявой машыны дэсанта-1 яшчэ будуць добраўпарадкаваць тэрыторыю, уладкуюць тратуарныя дарожкі, падсветку. А ўрачыстае адкрыццё будзе прымеркаванае да Дня Перамогі.

Аналагічны помнік збіраюцца паставіць у Ашмянах (чытайце на 1-й старонцы).

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ". БМД-1** (баявая машына дэсанта-1) – савецкая баявая гусенічная плавальная машына, прызначаная для выкарыстання ў паветрана-дэсантных войсках і дэсантавання парашутным або пасадачным спосабам з ваенна-транспартнага самалёта тыпу Ан-12 і Іл-76. Прынятая на ўзбраенне ў 1969 годзе.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

БМД-1 (баявая машына дэсанта) устаноўленая ў Мядзеле.

СПАБОРНІЦТВЫ

# Вызначыліся ў чырлідынгу

**МЯДЗЕЛ. 15 лютага адбыўся раённы этап рэспубліканскага конкурсу спаборніцтваў па чырлідынгу "Піянерскія іскры". Прайшоў ён у сярэдняй школе №2 горада.**

Удзельнічалі шэсць каманд. Толькі адна – з Крывіцкага сада-школы – выступіла ў групе ўдзельнікаў 7-9 год.

Астатнія пяць – у групе 10-14 год. Тут перамагла каманда гімназіі-інтэрната Мядзела, на другім месцы – прадстаўнікі СШ №2 горада, расказала старшыня раённага савета Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі **Аксана Карпей**.

На занальным этапе Мядзельшчыну прадставяць не адна, а дзве каманды, паколькі вынікі яны паказалі практычна аднолькавыя. Занальны этап пройдзе 22 лютага ў Вілейцы. У ім прымуць удзел каманды Мядзельскага, Вілейскага, Валожынскага і Маладзечанскага раёнаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ". Чырлідынг** – від спорту, які спалучае элементы шоу і відовішчных відаў спорту (танцы, гімнастыка, акрабатыка). Зарадзіўся ў ЗША ў 1870-я гады і набыў найбольш шырокае распаўсюджванне да сярэдзіны дваццатага стагоддзя. Прыкладны пераклад назвы: лідары групы падтрымкі.

# “Дай волю, яны б таго мядзведзя і аблізалі”

**СМАРГОНЬ. Пастаянная экспазіцыя ў гісторыка-краязнаўчым музеі Смаргоні запрацавала летась у ліпені. Але ці запатрабаваная яна? Наколькі адпавядае сучаснасці? Хто прыходзіць сюды знаёміцца з гісторыяй гэтага краю. Пра ўсё падчас размовы з дырэктаркай музея Любоўю Белуш.**


Фота Настассі РОЎДЫ.

Любоў Белуш, дырэктарка Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея.

– Нашы наведнікі самай рознай узроставай катэгорыі, але кожны знаходзіць тут штосьці цікавае для сябе, – распавядае спадарыня Любоў. – Як дарослыя, так і маленькія, якія толькі што хадзіць навучыліся. Апошнія ад нашага чучала мядзведзя ў неверагодным захапленні. Дай волю, то яны б, мабыць, і аблізалі яго.

Літаральна некалькі дзён таму прыйшла група дзяцей з рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра “Лясная Паляна”, што на Смаргоншчыне. Выкладчыца, што прыйшла з групай, прывяла і сваё дзіця, якому два ці тры гады. Хлопчык нічога не слухаў, яму нічога не было трэба, акрамя гэтага мядзведзя. Увесь час казаў сваёй маці: “Ідзі, падыдзі да мядзведзя, я пагляджу, як ты побач з ім глядзішся”. Я і зараз яшчэ пад уражаннем ад таго наведвання.

Мядзведзь мядзведзем, аднак адным ім задаволены не будзеш. Некаторыя наведнікі прыходзяць у музей і кажуць, што варта было б экспазіцыю дапрацаваць.

– Мы б і самі хацелі шмат што зрабіць інакш, – кажа Любоў Белуш. – Аднак экспазіцыю пачыналі распрацоўваць яшчэ дзесяць год таму. Натуральна, за гэты час з'явіліся новыя тэхналогіі. У нас яны проста былі непрадугледжаныя. Мы знойдзем на іх сродкі, будзем выкарыстоўваць. Прапановы ўлічвалі, асабліва ад спецыялістаў. Мы дадавалі апісанне да пэўных экспанатаў, калі дадаць яго раіў гісторык. Вельмі шмат тых, каму штосьці дзесьці не падабаецца, бо ўсе лічаць сябе спецыялістамі. Аднойчы прыйшоў чалавек і кажа: “А навошта вы гэтую залу зрабілі? Чаму не зрабілі залу “Працоўнай славы”? А чаму так? Бо без яго партрэта ў такой зале не абыдзешся.


Фота Настассі РОЎДЫ.

Група дзяцей з рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра “Лясная Паляна” на пастаяннай экспазіцыі ў Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

**– Што сёння дадалі б да экспазіцыі?**

– Інтэрактыўныя дошкі, спецыяльнае прыстасаванне, калі падыходзіш да экспаната, цісьнеш кнопку і слухаеш яго апісанне, яго гісторыю. Калі да гэтага дадаецца яшчэ і аўдыё, і відэа. Гэта вельмі зручна. Асабліва калі ўлічыць, што наша экспазіцыя разнапланавая, у адной зале сабрана шмат тэм. Рабіць анатацыю? Але ў ёй мы не пакажам нават і сотай долі таго, што можна распавесці. Тады ў гэтым проста няма сэнсу. Пакуль што мы самі праводзім экскурсіі. Калі чалавек хоча пачуць штосьці асаблівае, то падчас размовы ён можа даведацца пра тое, што яго цікавіць. Мы ідзём насустрач нават тады, калі чалавек і не замаўляе экскурсію. Нельга сказаць, што мы ад гэтага нясём нейкія вялікія страты, бо размова з людзьмі заўсёды прыносіць штосьці добрае. Бывае падчас такой гутаркі людзі прапануюць перадаць музею свае экспанаты. Нядаўна да нас прыйшла жанчына, якая перадала нам новыя венскія крэслы, бо ў нас дагэтуль былі вельмі старыя. Некаторыя экспанаты хацелася б замяніць. Але ўсё ўпіраецца ў фінансы. Усё гэта мы будзем рабіць за грошы, якія самі заробім.

### Плануюць адкрыць новую залу

Цяпер музей збіраецца адкрыць новую залу народнай творчасці. Яе будуць выкарыстоўваць і для продажу сувенірнай прадукцыі. Памяшканне ўжо адрамантаванае, мэбля закупленая. Засталося знайсці грошы на набыццё галерэйнай сістэмы.

– А далей і за месяц усё зробім. Шкада ж, што такая плошча прападае. Ёсць людзі, якіх “хэндмэйд” сапраўды зацікаві́ць. Будуць і замежнікі ездзіць да нас па Першай сусветнай вайне. Мяркуем, ім таксама наша народная творчасць будзе цікавая.

### Што наведваюць у раёне турысты

– Часцей за ўсё любяць наведваць Кушляны, дзе месціцца музей-сядзіба Францішка Багушэвіча, – дадае спадарыня Любоў. – Таксама Крэўскі замак, Увядзенскі жаночы манастыр у Багушах. Па дарозе шмат дотаў: і нямецкіх, і рускіх. Заязджаюць у былы Езуіцкі калегіум у Жодзішках, сёння гэта псіхіятрычная бальніца. Касцёлы ў Жодзішках, Солах. Асобны пункт – Залессе, дзе цудоўны парк, сядзіба Агінскага...



Настасся РОЎДА
E-mail:
nastya.rovdo@
gmail.com
Skype:
nastya_rovdo

## Як музей ратаваў кошку

Як аказалася, у музеі клапоцяцца не толькі пра людзей, але і пра катоў. Вось якая гісторыя тут не так даўно адбылася.

Будынак музея аднапавярховы. І пад акном кабінета дырэктаркі ёсць труба.

– З той трубы раптам пачало даносіцца жаласлівае кацінае мяўканне, – распавядае спадарыня Любоў. – Дзень, другі, трэці – не змаўкае. Адкуль гэты кот і чаго ён там мяўкае, незразумела. Цэлымі днямі не сціхае, ужо проста немагчыма вытрымліваць. Вырашылі, што ў гэтую трубу ён зваліўся і не можа выбрацца. Спрабавалі дастаць, але труба маленькая, не атрымалася. Выклікалі МНС.

А пад нашым будынкам унізе знаходзіцца ЖРЭС. Хлопцы, што там працуюць, спецыяльна не пайшлі дахаты, рабілі стаўкі, ці прыедзе МНС. Я кажу: “Прыедуць. Начальніка ведаю, там хлопцы адказныя”. Прыехалі, выцягвалі ўсяк-усяляк. Не выцягнулі. На наступны дзень ён усё яшчэ раве. Мы яму то кілбасы кінем, то яшчэ чаго. Ну, думаем, добра, што ж рабіць, пакутуе ён, бедны. Ужо думалі, можа ветэрынара выклікаць, каб якой атруты даў і каб кот больш не пакутаваў.

А потым высветлілася, што там не тупік. Некалі праз люк ён забраўся ў цеплатрасу і лазіў па трубах. І не было як выйсці. Вось і падыходзіў сюды, бо святло дзённае бачыў. З цеплатрасы мы з хлопцамі са ЖРЭСа потым яшчэ паўдня яго даставалі. Атрымалася. Аказалася, гэта кошка. Яе нават да сябе забрала адна з супрацоўніц ЖРЭСа.


Фота Настассі РОЎДЫ.

Супрацоўніцы музея Анастасія Аляксеева і Алена Чарнецкая, якія спецыяльна пераапрануліся ў кімано.

● ВЫСТАВЫ

## На японскай выставе Аліну называлі Арынай

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 13 лютага ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі працуе выстава “Планета Японія”. Яна будзе працаваць да 16 сакавіка.**

Выставу падрыхтаваў японскі Цэнтр культуры і спорту “Добрасуседства” Токіа.

– Ірассяймасе! – так вітаюцца ў Японіі і так павітаўся прадстаўнік японскага цэнтра **Уладзіслаў Асака**.

Здзіўляць наведнікаў выставы ён пачаў адразу.

– Якім было асноўнае прызначэнне японскага вееру тысячу гадоў таму? – спытаўся спадар Уладзіслаў.

Адказаць паспрабавала **Аліна**.

– Арына?

– Аліна!

– Арына, у японскай мове няма літары “л”, як і “ч” ці “ш”. Таму, напрыклад, не “піражкі”, а “піросікі” (з націскам на “о”).

Адказ дзяўчыны, дарэчы, залічылі. Веер быў патрэбны для таго, каб падзяляць з ім позірк, каб не глядзець прама ў вочы.

Спадар Уладзіслаў паабяцаў за адказ бясплатнае наведванне выставы ў любы дзень разам з сябрам колькі заўгодна раз. І заўважыў, што ў Японіі ўсім вераць на слове і ні ў каго не пытаюцца дакументы. Таму што слова ў гэтай краіне значыць больш за любы дакумент. І сёння шматмільённыя кантракты заключаюцца проста на словах. Гэтага дастаткова.

– Асноўныя рысы японцаў – ветлівасць, абавязковасць, удзячнасць, павага да старэйшых, настаўнікаў, бацькоў, – заўважыў Уладзіслаў Асака. – І самае галоўнае – не згубіць свой твар і не даць згубіць яго іншаму чалавеку.

Ён звярнуў увагу і на іншыя асаблівасці жыхароў гэтай усходняй краіны. Напрыклад, калі мы загінаем пальцы, то яны іх разгінаюць. Калі мы, пагладжваючы жывот, паказваем, што наеліся, японцы гэтым жа жэстам запрашаюць паразмаўляць па душах.

### Некалькі фактаў пра японцаў

На выставе распавядалі розныя дзіўныя рэчы.

– Аказваецца, у Японіі прынята дзяліцца радасцю, але не дзяліцца горам.

– У краіне існуе тры розныя віды ўсмешкі.

– Японец ніколі не падумае, што яго могуць падмануць ці абразіць.

– Калі мы развітваемся, то кажам “да сустрэчы”, японцы – жадаюць руплівасці.

– Калі нас дзіцячая казка “Рэпка” вучыць дапамагаць адзін аднаму і кажа пра тое, што толькі разам можна зрабіць вялікую справу, то ў японцаў асноўны падтэкст ва ўменні дамовіцца.

– Да дзявятага класа японец мусіць ведаць і адрозніваць 24 колеры і па 10 адценняў кожнага.

– Усе падарункі ў Японіі дораць у падарункавай паперы, каб нікому не было няёмка ад таго, што падарунак, напрыклад, каштуе няшмат. Увогуле, падарункі мусяць быць сціплыя і на іх павінны быць пазначаны кошт. Разгортваць падоранае прынята пасля таго, як госці сыдуць. Прытым японцы потым запісваюць, хто, што і па якім кошце падарыў. Бо ў гэтай краіне існуе “падарункавы кругазварот”. Гэта значыць, калі вам штосьці падарылі, вы мусіце падарыць у адказ. Таму сярэдні японец на Новы год у сярэднім атрымлівае 100 паштовак і столькі ж адпраўляе сам. Прычым палову робіць сваімі рукамі.

**Настасся РОЎДА.**

# Дзень беларускай мовы: ад рання да змяркання

**МАЛАДЗЕЧНА. 21 лютага – Міжнародны дзень роднай мовы. Мы прапануем сваім чытачам гэты дзень правесці з беларускай мовай.**




**Фатограф Мікалай Баран: "Дажыліся, у роднай краіне трэба з шыльдачкамі,быццам жабракі, прасіць аб тым, каб загаварылі з табой на беларускай мове".**

Распарадак дня і месцы, дзе з вамі пагутараць на беларускай мове, – у гэтым артыкуле.

Калі вы ставіце будзільнік на тэлефоне, то падрыхтоўку да Дня мовы пачніце загадзя. Вечарам змяніце мелодыю будзільніка на нешта накшталт: "Сонейка, час уставаць!".

І ўжо ў шэсць, сем ці восем гадзін раніцы вы пачалі дзень правільна.

Сёння працоўны дзень, і ўсе мы рушым на працу. Паспрабуйце ў гэты дзень пагутарыць з кандуктарам у грамадскім транспарце па-беларуску. Вось пабачыце, вам абавязкова адкажуць. І ў астатніх пасажыраў у вачах вы прачытаеце спачатку здзіўленне, а потым павагу і нават зайздрасць ад таго, як у вас атрымоўваецца так лёгка і прыгожа размаўляць па-беларуску. Працоўны дзень пачынаецца з чаго? Так, з прагляду навін у інтэрнэце. Выберыце сёння для гэтага беларускамоўныя сайты. Калі спатрэбіцца, лепшыя парады для паўсядзённага жыцця вы можаце атрымаць на сайце daily-helper.com. Тут вы знойдзеце парады псіхолагаў, педагогаў, дызайнераў інтэр'ераў, дактароў і шмат чаго іншага. Адзінае, калі завітаеце на гэты сайт, не забудзецеся схадзіць па-абедаць.

### Пытайцеся па-беларуску, вам адкажуць

У Маладзечне працуе адзіная пакуль кавярня беларускай кухні. Яе дырэктар **Таццяна Чыжэўская** пагутарыла з намі:

– Афіцыянты наўрад ці першыя загавораць з вамі па-беларуску, але, калі вы павітаецеся па-беларуску, вам адкажуць таксама. Магчыма, не так прыгожа атрымаецца, але гонар установы я сароміць не дазволю. Нам даводзіцца не часта чуць, каб нашы наведнікі размаўлялі на беларускай мове. Але, калі чую беларускую гутарку, я так радуюся, мова такая прыгожая. Мы, у сваю чаргу, усё робім, каб стварыць беларускі куточак. І стравы нацыянальныя гатуем, і падаём іх да стала ў традыцыйным беларускім посудзе: збаночках, гаршчочках. Да напояў ставім келіхі. А зусім нядаўна я прапанавала і меню перакласці на беларускую мову. Так што з панядзелка ў нас і пагутарыць, і паесці, і меню пачытаць можна па-беларуску.

Другая палова дня на працы пройдзе незаўважна, калі пачаць планаваць вечар адразу паля абеду.

Вечарам можна наведаць і музеі, і бібліятэкі, і тэатры. Там пачуць мову можна заўсёды. Але да тэатра ці музея трэба дабрацца. Пасля работы так не хочацца чакаць грамадскі транспарт, таму да месца прапаную дабірацца на таксі. І, вядома ж, толькі з беларускамоўным таксістам.

### Пагаварыце са мной па-беларуску – атрымаеце скідку

У адной са службаў таксі працуе **Аляксандр Семашкевіч**:

– У маладзечанскім таксі пачуць чыстую беларускую мову амаль немагчыма. Здараюцца пасажыры, якія размаўляюць на ламанай мове. Але ж размаўляюць! А калі б мне даваўся пачуць чыстую, прыгожую гутарку, далібог, даў бы скідку такому пасажыру. Вось мяне здзіўляе: бывае, пасажыры просяць паставіць тую ці іншую песню, але на беларускай мове ні разу не прасілі.

**– А калі папросяць паставіць беларускую песню на ваш густ, якую паставіце?**

– "Чарку на пасашок". Самая беларуская песня.

Такі дзень не павінен не пакінуць свайго следу ў гісторыі. Таму прапаную вам па дарозе дадому завітаць у фотамайстэрню да беларускамоўнага майстра **Мікалая Барана**, каб захаваць на памяць у сямейным фотаальбоме сябе з сапраўднай беларускай усмешкай.

– Мяне заўсёды здзіўляе, калі чалавек не разумее слова "прозвішча". 70% маіх кліентаў кажуць: "А мянушкі ў мяне няма". Сваім кліентам, што загаварылі на роднай мове, заўсёды імкнуся і зніжку даць, і параду якую ў якасці бонуса. Сам я выхоўваўся ў польска-беларускай сям'і. Ну як беларускае слова твар можа азначаць па-руску, самі ведаеце што? Я ўспомніў гісторыю, як на мяне ў краме пакрыўдзілася прадавачка. Я ёй кажу: "У вас каўнерык захінуўся". А яна мне: "Што вы прычапіліся, ніякіх зашпілек на мне няма!" А быў і іншы выпадак. Іду па вуліцы, насустрач мне крочаць двое дзяцей гадоў па шэсць, далёка не беларусы. Па вузкім разрэзе вачэй можна аб гэтым здагадацца. І тут адзін пытаецца ў другога: "Ты ўпэўнены, што мы ідзём правільнай дарогай". Як мяне ўсцешылі гэтыя словы. А мову вернем, не сумнявайцеся.

Апошні прыпынак па дарозе дадому – гэта крама, у якой трэба набыць ласунак да вашай беларускай вячэры.

### Я быццам белая варона, якая адна ведае мову

У краме, што ў шостым мікрараёне, гаспадыня **Ірына Сямёнаўна** не толькі з вамі пагутарыць, але і пахваліць за тое, што вы размаўляеце па-беларуску.

– Ды не пытайцеся вы ў мяне пра мову, са мной і так усё ясна! Вы пытайцеся, чаму моладзь не жадае яе вывучаць. І на мяне глядзяць, як на белую варону. Я, калі хвалююся, заўсёды пераходжу на беларускую мову.

**– Са сваімі пакупнікамі размаўляеце па-беларуску?**

– Не проста размаўляю, я заахвочваю людзей, каб і яны са мной размаўлялі па-беларуску. І пахвалю заўсёды за адказ на мове.

Ну а ўвечары, самому нагаварыўшыся па-беларуску, самы час пачытаць беларускую казку сваім дзецям, якія за дзень засумавалі па беларускай мове. У гэтым вам дапамогуць сайты: dzietki.org ці kazki.unicef.by. Тут шмат казак, гісторый, вершаў і займальных задачак для дзяцей любога ўзросту. І не мяняйце мелодыю будзільніка. Хай кожны ваш дзень пачынаецца з беларускага: "Прачынайся, сонейка!"

І апошняе: калі сёння, 21 лютага, а вы чытаеце ў "Рэгіянальнай газеце" артыкул пра мову, значыць вы ўжо ўсё робіце правільна.



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru

## 5 парадаў, як правесці Дзень мовы з карысцю:

1. Паспрабуйце з кожным, каго сустрэнеце цягам дня, вітацца па-беларуску. Добры дзень, вітаю, прывітанне – вазьміце гэтыя словы ў свой слоўнікавы запас.

2. Цяпер самы час набываць падарункі мужчынам да свята 23 лютага. Не саромейцеся, набудзьце ў краме шкарпэткі, шалік, насоўку і пену для галення. Не забудзьцеся сказаць прадавачцы добры дзень.

3. Вывучыце верш пра мову і на мове. Гэта цудоўна заўсёды трымаць у галаве прыгожы верш. Хай гэта будзе верш маладзечанкі **Лідзіі Гардынец**:

*У вернасці табе я не клялася,*
*Але чамусьці ўвечары і ў ранку*
*Я пела над калыскаю дзіцяці*
*На беларускай мове калыханку.*
*А выйду ў поле сцежачкаю вузкай –*
*Як гэта шчасце словам перадаць!*
*Крынічка мне пяе па-беларуску,*
*Па-беларуску травы шапацяць!*
*Над кветкаю прыгожаю нагнуся –*
*І ўжо навек зачаравана я:*
*На мове маёй светлай Беларусі*
*Пяе мне песні родная зямля.*
*У вернасці табе я не клянуся –*
*Табой жыву і дыхаю штодня,*
*Табою, мая мова, ганаруся,*
*Што беларуска – ганаруся я!*

4. Прыгатуйце на вячэру якую-небудзь беларускую страву. Прызнайцеся, калі вы апошні раз ласаваліся верашчакай? Тады, чаму б гэта не зрабіць сёння. Вам спатрэбіцца свіныя рабрынкі – 0,5 кг, цыбуля рэпчатая 1-2 шт., хлебны квас – 1 шклянка (але можна абысціся і вадой), мука – 1 ст.лыжка, соль, перац, лаўровы ліст. Свініну нарэжце, пасаліце, паперчыце, абсмажце ў патэльні хвілін дзесяць. На тлушчы, які вылучыцца, абсмажце дробна парэзаную цыбулю, прысыпце мяса з цыбуляй мукой, перамяшайце. Мяса з цыбуляй перакладзіце ў керамічны або чыгунны гаршчочак, заліце хлебным квасам (ці вадой) і пастаўце тушыцца ў духоўку на 45 хвілін. Традыцыйна верашчака падаецца з блінамі.

5. І засталося самым блізкім прызнацца ў каханні, а самому сабе – у любові да роднай мовы.

**Наталля ТУР.**




**Не адмаўляйце сабе ў задавальненні паласавацца беларускай верашчакай.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Міхаіл Каратай, майстар участка бягучага ўтрымання аб'ектаў гарадскога добраўпарадкавання, толькі і паспявае змагацца са скідваннем адходаў у Маладачанку з прыватных дамоў.

# Рака Уша чарнее з-за адходаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхары скідваюць у раку гаспадарчыя воды, памыі і нечыстоты, з-за чаго вада каля месца выкіду набывае чорны колер.**

Міхаіл Каратай, майстар участка бягучага ўтрымання аб'ектаў гарадскога добраўпарадкавання, сочыць за чысціней вадасцёкаў, траву абкошвае ля іх. Некалькі год таму нават чысцілі раку эскалатарам. Гавораць, што на завулку Зялёным, які знаходзіцца ўсутыч з Маладачанкай, ледзь не з кожнага дома ідзе скід з адходамі ў раку. Зімой такія месцы відаць найлепш.

**У Маладзечне 20 кіламетраў адкрытых вадасцёкаў і 80 закрытых.**

Камунальнікі і эколагі пазнаюць скід у раку здалёк. Звычайна каля дома ці нават за плотам месціцца пясчаны насып, пад якім ёсць накрыўка. Так хаваюць адстойнік, з якога гаспадары праклалі скід у раку.

Экалогія і здароўе не для кожнага з'яўляюцца дастатковай прычынай, каб штосьці змяніць.

– Самы дзейсны метад – адміністрацыйны, а менавіта штрафы, распавядае **Іван Мялюк**, вядучы спецыяліст Маладзечанскай райінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. – Такія рэйды праводзім часта, прыкладна раз на месяц. "Камунальнік" знаходзіць парушэнні, і мы выязджаем. Калі знаходзім месца, шлях выкіду павінны дэмантаваць. Хаця б затампанаваць, гэта значыць, закрыць адтуліну.

Па законе, калі гаспадарам трэба пачысціць адстойнік, яны павінны пазваніць у домакіраўніцтва і запрасіць спецыяльную машыну, якая адпампуе нечыстоты.

### Штогод Уша ўсё бруднее

Іван Мялюк распавёў па стан Ушы і што на яе ўплывае.

**– Ці ўплывае на раку блізкасць дамоў?**

– Пры выдзяленні ўчастка абавязкова ўлічваюцца водаахоўныя зоны. Дамы нельга ставіць бліжэй за ўстаноўленую адлегласць.

**Нарматывы па адлегласці водаахоўных і прыбярэжных зон замацаваныя ў Пастанове Саўміна №377.**

**– Як самавольныя выкіды адбіваюцца на жыцці людзей?**

– Больш адбіваюцца на флоры і фаўне. Бытавая хімія трапляе ў падземныя воды. Але ўсё звязана, і ўсё гэта потым вяртаецца нам.

**– Чым адходы небяспечныя?**

– Яны ўтрымліваюць шмат забруджвальных рэчываў. Найперш ПАВы, ці паверхнева-актыўныя рэчывы, што змяшчаюцца ў мыйных сродках. Трапляе азотная група, фасфаты, нітраты – усё гэта ўздзейнічае негатыўна на глебу. Штоквартал мы робім маніторынг, збіраем пробы, каб ацаніць, ці становіцца большым забруджванне. Замяраем забруджванні ва Ушы на ўчастку да Маладзечна і пасля. Цягам многіх год ідзе тэндэнцыя на павелічэнне забруджвальных рэчываў ва Ушы.

Да ўсяго, што скідваюць у раку з прыватных дамоў, дадаюцца і сцёкі гарадскіх лівнёвак. А вада ўжо з іх трапляе ва Ушу. На кожным выпуску з ліўнёўкі ў раку павінны быць ачышчальныя збудаванні. Вада ў іх ачышчаецца і, калі канцэнтрацыя забруджвальных рэчываў дасягне дапушчальнай нормы, скідваецца ва Ушу. Усяго выпускаў у Маладзечне дзевяць, а ачышчальныя збудаванні – толькі на дзвюх.

### 50 тон нафтапрадуктаў

Тое, што жыхары скідваюць свае адходы ва Ушу, – адна праблема. Другая, што некаторыя прадпрыемствы таксама маюць выпускі ў раку.

**– Чым па забруджванні вады адметнае Маладзечна?**

– Любы горад аказвае негатыўнае ўздзеянне на раку. Асаблівасць Маладзечна ў нафтабазе, прадпрыемствах і, вы самі бачыце, у насельніцтве. Уша брудная яшчэ да Маладзечна, а мы дадаём.

**Маладачанка ўпадае ва Ушу, Уша – у Вілію, Вілія ўпадае ў Нёман каля Коўна, а Нёман – у Куршскі заліў Балтыйскага мора.**

На кожным выпуску з прадпрыемстваў ёсць ачышчальныя лакальныя збудаванні, таму выкіды не наносяць вялікай шкоды. Скід Красненскага кансервавага завода, напрыклад, мае ачышчальнае збудаванне, апошнія два гады перавышэнняў нормы не было.

А вось наша нафтабаза ўплывае на ваду. З талай вадой і моцнымі ападкамі нафтапрадукты з-пад базы вымываюцца і трапляюць ва Ушу па ліўнёўках. А іх там залягае каля 50 тон.

Вядома, нафтабаза праводзіць маніторынг стану падземных водаў. У цёплы перыяд адпампоўваюць пяць калодзежаў. Калі вада адстаіцца, яе скідваюць на ачышчальныя збудаванні, а адкачаныя з зямлі нафтапрадукты адпраўляюць на перапрацоўку.

### З-за каго ўсё чорнае?

Калі мы аглядалі Маладачанку, з аднаго з дамоў выйшла гаспадыня. Спыталася, што глядзім. Міхаіл Каратай у адказ спытаўся, чаму з іх дому ідзе выкід у раку. Жанчына адказала, што яна тут толькі кватарант, а пра справы гаспадара не ведае. Ён жыве ў іншым горадзе і прыязджае рэдка.

– Дык з-за каго ж тут усё чорнае ў рацэ вакол выкіду?

Жанчына схавалася за дзвярыма.

## З вынікаў рэйдаў па Маладачанцы

Паводле вынікаў абследавання самавольных урэзак у ліўнёвую каналізацыю складаюць акт. Падчас яго складання гаспадары не заўсёды бываюць, таму ім даводзіцца пакідаць павестку для дачы тлумачэнняў. Вось некаторыя вытрымкі з дакумента, канкрэтныя дамы мы не ўказваем:

- з дома ідзе выпуск гаспадарчых вод. Канава чарнавата-рыжага колеру з непрыемным пахам;
- на месцы летняга душа з цэглы стаіць латок, у які трапляюць гаспадарчыя воды. З латка праклалі спуск у ліўневую каналізацыю;
- насупраць дома забруджаная ліўневая каналізацыя, зліў нечыстот каля краю канавы. Замерзлая вада ў месцы выпуску чарнаватага колеру.

## Пад Крэвам – дзве ветраэнергетычныя ўстаноўкі

**СМАРГОНЬ. У канцы студзеня ўстаноўкі запрацуюць ў тэставым рэжыме.**

Ветраэнергетычныя ўстаноўкі змантавала ТАА "АэраСтрым" непадалёк ад вёскі Крэва. Цяпер пракладваюць неабходныя камунікацыі, падключаюць устаноўку да агульнай энергасістэмы, і ўжо ў канцы студзеня яна пачне працу ў тэставым, а потым і ў працоўным рэжыме.

Магутнасць кожнага ветрака – 650 кВт, паведамляе Беларускі зялёны партал.

Сёлета плануюць усталяваць чатыры падобныя ветрагенератары. Аб'ём інвестыцый па гэтым праекце – 6,9 мільярда рублёў.

Яшчэ тры ветраўстаноўкі з'явяцца на Смаргоншчыне ў першым паўгоддзі. Іх плануе запусціць у працу ТАА "Энергапарк". Сумарная магутнасць гэтых ветракоў – 1,8 МВт, аб'ём інвестыцый па праекце – 10,9 мільярда рублёў. Два генератары з трох ужо дастаўленыя ў раён.

Пасля вывучэння магчымасцяў выкарыстання ветру на Смаргоншчыне вызначалі 17 пляцовак для ветрагенератараў – усе яны ў ваколіцах Крэва. Цікавасць да іх праяўляюць не толькі тыя кампаніі, з якімі ўжо заключаныя дагаворы, але і іншыя патэнцыйныя інвестары.

Кампанія з беларуска-літоўска-расійскім капіталам "Экалагічная энергія" ў Смаргонскім раёне ўжо атрымала ўчастак на будаўніцтва сонечнай электрастанцыі. У рэалізацыю гэтага праекта плануецца ўкласці 375 мільярдаў беларускіх рублёў, магутнасць будзе 17 МВт.

## Еўрасаюз збіраецца адмовіцца ад пластыку

У прынятай у студзені рэзалюцыі Еўрапарламент заклікае да 2020 года ліквідаваць з рынку самыя небяспечныя пластыкавыя рэчывы.

ЕС імкнецца скарацiць выкарыстанне пластыкавых мяшкоў і забяспечыць поўную перапрацоўку пластыкавых адходаў. Пра гэта распавядае афіцыйны сайт ecocommunity.ru са спасылкай на Еўрапарламент.

У свеце велізарная колькасць пластыку, які не раскладаецца цягам стагоддзяў і шкодзіць навакольнаму асяроддзю. Еўрапарламентарыі адзначаюць, што эканамічны патэнцыял перапрацоўкі пластыку выкарыстаны не да канца, перапрацоўваецца толькі 25% адходаў з яго.

Старонку падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.

ФУТБОЛ

# Чэмпіянат Беларусі: дзве нашы каманды?



Адна з мінулагодніх гульняў каманды "Забудова".

**МАЛАДЗЕЧНА. У інтэрнэт-рэсурсах з'явілася інфармацыя пра тое, што ў сезоне-2014 у другой лізе чэмпіянату Беларусі па футболе Маладзечанскі раён прадстаўляць дзве каманды: футбольны клуб "Маладзечна-2013" і каманда "Забудова-2007".**

**Аляксандр Кавалёў**, загадчык сектара спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама, патлумачыў нашаму выданню, што ён упершыню пра гэта чуе.

– Пра "Забудову-2007" ніякіх размоў не было. У чэмпіянаце краіны Маладзечна будзе прадстаўляць каманда **Дзяніса Мятліцкага** "Маладзечна-2013". "Забудова" і каманда дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы будуць спрачацца за званне лепшай каманды вобласці ў абласным чэмпіянаце.

З гэтым жа пытаннем мы звярнуліся да галоўнага трэнера каманды "Забудова-2007" **Мікалая Мятліцкага**:

– Мне вельмі прыемна чуць такую навіну, але, на жаль, ніякіх заявак мы не падавалі і прапаноў не атрымоўвалі. Цяпер склалася такое становішча, што ў федэрацыі футбола пакуль не патлумачылі, па якім прынцыпе будуць фарміравацца зоны для правядзення чэмпіянату ў другой лізе. Інакш кажучы, зоны могуць быць размеркаваныя па такіх прынцыпах: "поўнач-поўдзень", "усход-захад". Калі гэта будзе такім чынам, то камандзе "Забудова" ў другой лізе рабіць няма чаго. Іншая справа, калі зоны размяркуюць па абласцях. Напрыклад: Мінская вобласць асобна, Віцебская асобна. Тады я скажу так: пры такім раскладзе нам не ўдзельнічаць у другой лізе не мае сэнсу. Калі сапернікамі будуць, скажам, каманда з Валожына, то "Забудова-2007" мае шанц паспаборнічаць у другой лізе.

Вяртаючыся да вашага пытання, адкажу на яго так: удзел каманды "Забудова-2007" у другой лізе пакуль толькі чуткі, але яны могуць стаць рэальнасцю.

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## Мядзяльчане сталі трэцімі ў вобласці ў валейболе

**МЯДЗЕЛ.** Ад 5 па 7 лютага ў межах абласных Алімпійскіх дзён моладзі ў Слуцку прайшлі спаборніцтвы па валейболе сярод юнакоў 1997-98 гадоў нараджэння.

Удзельнічалі ў турніры дзевяць каманд. У сваёй падгрупе каманда Мядзельскага раёна занялі першае месца і трапіла ў фінальную частку спаборніцтваў.

У фінале першую гульню мядзяльчане прайгралі камандзе са Слуцка, затым саступілі гульцам з Клецка і выйгралі ў каманды Салігорска з лікам 2:1. У выніку заваявалі трэцяе месца.

**– Як бы ацанілі гульню каманды?** – спытаў у трэнера СДЮШАР **Андрэя Русака**.

– Гульню паказалі неблагую і вынік добры. Гэта ж з улікам таго, што былі першыя абласныя спаборніцтвы для нас.

**– Хто быў у мядзельскай камандзе?**

– Мядзельскія хлопцы і два навучэнцы гімназіі-інтэрната, якія прыехалі з Крывічоў і Выгалавічаў. Вось якраз **Іллю Гуцава** з Выгалавічаў запрасілі ў склад зборнай вобласці на рэспубліканскія спаборніцтвы.

## Лепшыя снайперы – з Чурлёнаў

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 15 лютага, адбыліся раённыя спаборніцтвы "Снежны снайпер" для ўстаноў адукацыі сельскай мясцовасці. Праходзілі яны на базе вілейскай гімназіі №2. "Снежны снайпер" звычайна складаецца са стральбы з пнеўматычнай вінтоўкі і лыжных гонак. Але ў сувязі з умовамі надвор'я лыжныя гонкі давялося замяніць спаборніцтвамі па бегу.

Першае месца і ў малодшай, і ў старэйшай групе заваявалі прадстаўнікі Чурлёнскага сада-школы, паведаміла дырэктар раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Жанна Скуратовіч.**

Таксама ў абедзвюх групах другое месца занялі навучэнцы Даўгінаўскай сярэдняй школы. Трэцяе месца ў малодшай групе падзялілі каманды Мацькаўскага сада-школы і Людвіноўскай школы, а ў старэйшай яно на рахунку навучэнцаў Мацькаўскага сада-школы.

## 15 галоў забілі футбалісты з Пастаў

**МЯДЗЕЛ.** 11 лютага пачаліся гульні дзявятага тура чэмпіянату раёна па мініфутболе. Каманда райваенкамата сыграла ўнічыю з гульцамі Крывіцкага савета 4:4, футбалісты з Пастаў разграмілі прадстаўнікоў СДЮШАР 15:1.

Камандзе ЖКГ залічанае тэхнічнае паражэнне 0:5 у матчы з "Юніёрам".

## Згуляюць у футбол у свята

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры 23 лютага пройдзе турнір па міні-футболе на прызы Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра. Прысвячаецца ён Дню абаронцаў Айчыны.

Удзел прымуць каманды з Астравецкага, Мядзельскага, Вілейскага і Пастаўскага раёнаў. Пачатак запланаваны на 10 гадзін, паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Патэнцыйныя навічкі "Смаргоні" прайгралі

**СМАРГОНЬ.** У Мінску адбыўся матч, у якім сустрэліся патэнцыйныя навічкі футбольнага клуба "Смаргонь" і каманда "Зорка-БДУ". Матч закончыўся з лікам 4:0 на карысць "Зоркі-БДУ", паведамляе сайт fc-smorgon.by.

У матчы ў складзе "Смаргоні" прымалі ўдзел толькі футбалісты, якія знаходзяцца на прагледзе ў клубе.

**Аддзел інфармацыі.**

МАСАВЫ СПОРТ

# Лепшыя спартсмены сярод аграрыяў – з Княгініна

**МЯДЗЕЛ. Раённая спартакіяда "Здароўе" сярод работнікаў аграпрамысловага комплексу прайшла 15 лютага. Спаборніцтвы праходзілі ў Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры.**

У спартакіядзе прынялі ўдзел 12 каманд. Выяўлялі яны лепшых у настольным тэнісе, узняцці гіры, дартсе, більярдзе, конкурсе "Штрафны кідок", стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі, шашках.

У настольным тэнісе сярод мужчын лепшым быў **Павел Місуна** (Нарацкі філіял Маладзечанскага малочнага камбіната), а сярод жанчын – **Ганна Радзевіч** (райветстанцыя). У дартсе лепшыя вынікі ў **Івана Бойкі** ("Занарацкі") і **Чаславы Жукоўскай** (таварыства "Свір-агра"). У конкурсе "Штрафны кідок" найбольш разоў трапілі мячом у баскетбольнае кальцо **Яраслаў Вяршыла** ("Занарацкі") і **Алена Давыдзенка** ("Княгінін-агра").

У стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі самым трапным аказаўся **Андрэй Марозаў** (упраўленне райсельгасхарчу). У шашках перамог **Мікалай Медзенцаў** (Нарацкі філіял Маладзечанскага малочнага камбіната). Самы лепш гулец у більярд прыбыў з "Княгінін-агра" – **Аляксандр Агеенка**.

Ва ўзніманні гіры ў вагавой катэгорыі да 80 кілаграмаў перамог **Павел Пішчака** ("Будслаўскае"), а звыш за 80 кілаграмаў – **Вячаслаў Цывінскі** ("Княгінін-агра"). Апошні ўзняў 24-кілаграмовую гіру 51 раз.

Прадстаўнікі "Княгінін-агра" недарэмна занялі столькі першых месцаў у індывідуальным заліку: у камандным заліку яны таксама сталі першымі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Спаборніцтвы па настольным тэнісе.

# Камент-эксперт Rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by
SMS на нумар +375-29 67-68-420

**Дар'ю Домрачаву піярыць адзін з аператараў мабільнай сувязі**

Тое, што зрабіла тут, у Сочы, Дар'я Домрачава – неверагоднае відовішча і, відаць, не я адна даўно не адчувала такіх эмоцый! Напэўна, спрынт сапраўды для яе быў толькі размінкай! Выдатна, фантастычна, сапраўдная Алімпійская перамога! І Чэмпіёнка-Малайчына! І менавіта яна можа стаць тварам гэтай кампаніі! Так трымаць і далей! *Анастасія Каляда.*

**Спартыўны сезон 2014. Катаемся на каньках і складаем планы на футбол**

Падобна на тое, што нічога новага ў футболе нас не чакае. Гармаза са сваімі выхаванцамі будзе выйграваць на вобласці. Любанец з Мятліцкім і мінчанамі ў складзе "Маладзечна-2013" будуць матляцца паміж трэцім-чацвертым месцамі з канца табліцы другой лігі рэспублікі. Можа, сапраўды варта пашукаць кампраміс паміж трэнерамі абедзвюх камандаў? Шкада, што гэта наўрад ці магчыма… *Серы.*

**Жудасная аварыя на трасе Мінск–Мядзел: загінулі чацвёра, у тым ліку – гадавалае дзіця**

Гэта нешта такое, ад чаго мову займае….. Не дай Божа такога нікому… нават вачамі бачыць((((

Больш за ўсё паражае "хуткая дапамога", калі яе можна так назваць!!! Што за людзі там працуюць??? Чаму іх ніхто за такое не карае??? Мала таго, што едуць на сваіх драндулетах паўдня, дык яшчэ і па тэлефоне не ўмеюць размаўляць! Гэта ж крымінал, прабачце!!! Кожная хвілінка ў такой сітуацыі на ўліку! А вадзіль баяцца на педаль "газу" цісканучы мацней, бо шмат паліва УАЗік зжарэ і скорасці нічога не застанецца ці банальны перапал выйдзе!!! Я каб працаваў на "хуткай", у мяне б дактары жыгналіся па дарозе! Гэта не адзінкавы выпадак з "хуткай". Чаму за гэтым ніхто не сочыць??? Зміцер.

**Статак зуброў у Налібоцкай пушчы**

Проста клас, Марыя! А я і не ведаў, што ў нашых лясах столькі волатаў жыве. Дзякуй за цікавыя здымкі. *Марыйчын Заўзятар.*

Насмяшыў ты мяне, *Марыйчын Заўзятар*. Такое адчуванне, што толькі ўчора на свет нарадзіўся. Аказваецца, ты і не ведаў, што ў нашых лясах столькі волатаў жыве. Мне дык пра гэта яшчэ ў школе расказвалі. *Лёва з Магілёва.*

**З рэдакцыйнай пошты**

На днях каля "Бярозкі" здарылася чарговае ДТЗ. Гэта ўжо чацвертая аварыя за апошнія паўтара месяца. Выклікае здзіўленне пазіцыя гарадскіх улад і ДАІ. Што замінае абмежаваць хуткасць аўтатранспарту на ўчастках дарог, сумежных перакрыжаванню "Бярозкі", да 30 км у гадзіну, а таксама паставіць святлафоры са стрэлкай? *А. Якубовіч.*

**Недахоп прыбіральшчыкаў – слабае месца**

Схітрыла начальніца жыллёвага аддзела "Камунальніка": "калі самі жыхары складаюць графік дзяжурстваў і самі даглядаюць пад'езд". Забылі, як пагрозамі прымушалі жыхароў прыбіраць лесвічныя клеткі і падвалы, як пагражалі не ўключаць ацяпленне ці адключыць гарачую ваду. Тое, што не хапае прыбіральшчыкаў, – праблема "Камунальніка", а не жыхароў. Жыхары дзесяцігоддзямі плацяць за тэхнічнае абслугоўванне ў поўным аб'ёме і маюць права на аплачаныя паслугі. *А.Якубовіч.*

**Кухарчыны дзеці**

Вельмі своечасова дапоўнілі патрабаванні да кандыдатаў у дэпутаты. У прыватнасці, звесткі пра тое, ці прыцягвалі яго раней да адказнасці за парушэнне якіх-небудзь законаў. Нават калі гэтыя законы адменены (напрыклад, фарцоўка, спекуляцыя), то такому кандыдату ўсё роўна верыць нельга. Няма гарантыі, што не будзе парушаць законы, якія дзейнічаюць цяпер.

Але выклікаюць сумненні некаторыя патрабаванні да кандыдатаў, запісаныя ў законе. Напрыклад, мінімальны ўзрост 21 год. Які з яго можа быць дэпутат? Адукацыі няма (у крайнім выпадку, сярэдняя спецыяльная), досведу працы няма і г.д. Навукова даказана, што мозг канчаткова фарміруецца да 30 год. Да гэтага ўзросту чалавек не можа прымаць адэкватныя рашэнні і амаль цалкам залежыць ад тых, хто побач. Прыехала з вёскі дзяўчо, паступіла ў медкаледж, пасля заканчэння адпрацавала паўгода – надакучыла. Праца не падабаецца, плацяць мала, куды падацца? А ў дэпутаты…

Акрамя гэтага, пасля 60 год (таксама даказана і тэарэтычна, і практычна) слабее памяць, згасае ініцыятыва, амбіцыі, імкненне да новага. Магчыма, было б правільна абмежаваць узрост кандыдатаў ад 30 да 60 год. Паводле статыстыкі, больш за палову кандыдатаў – педагогі, медыкі і г.д. Гэта значыць, мала кандыдатаў з вышэйшай тэхнічнай, юрыдычнай ці эканамічнай адукацыяй.

Без вышэйшай адукацыі нагогул не павінна быць кандыдатаў. Быў у нас такі выпадак – выбіралі з калектыву кандыдата: слесар 5 разраду, добры работнік. На сходзе біў сябе ў грудзі, абяцаў усё зрабіць для таго, каб прадпрыемства і горад квітнелі. Выбралі. З'ехаў у Мінск, перацягнуў сям'ю ў сталіцу і больш яго не бачылі. Значыць, проста рваўся да кармушкі. Цяпер ужо ўсе разумеюць, што выказванне Леніна пра тое, што кожная кухарка можа кіраваць дзяржавай, – поўны нонсенс. *А. Якубовіч.*

## ● ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

**Дзе вам не хапае беларускай мовы?**

| | |
|---|---|
| 56%: | Усюды |
| 13% | На шыльдах |
| 8%: | У фільмах, кнігах, газетах |
| 7%: | На вуліцы |
| 5%: | У сям'і |
| 4%: | Ад чыноўнікаў |
| 2%: | На працы |

Усяго галасоў 56



## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | 3 | 4 | | | 6 | |
| | | 8 | | | 7 | | | |
| | | | 6 | | | 9 | | 7 |
| | 9 | 7 | | 6 | 2 | 8 | | |
| | | | | | | | | |
| | | 4 | 5 | 3 | | 6 | 7 | |
| 5 | | 2 | | | 6 | | | |
| | | | 7 | | | 2 | | |
| | 6 | | | 5 | 4 | | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.

## ● РЭПЕРТУАР

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Гістарычная драма "**Пампеі**" , 3D (ЗША, Германія, 2014, прагляд дазволены для гледачоў, якім за 16)
21, 22 лютага – у 21:00
23 лютага – у 18:30
24 лютага – у 21:00
25 лютага – у 18:30
26 лютага – у 21:00
27 лютага – у 18:30
Кошт білета – 45 000-50 000 рублёў.

Фантастычны баявік "**РабаКоп**" (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
21, 22 лютага – у 18:30
23 лютага – у 21:00
24 лютага – у 18:30
25 лютага – у 21:00
26 лютага – у 18:30
27 лютага – у 21:00
Кошт білета – 45 000 рублёў.

Камедыя "**Нерэальнае каханне**" (Расія, 2014, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
21-23 лютага – у 16:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Фэнтэзі, баявік "**Я, Франкенштэйн**", 3D (ЗША, Аўстралія, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22, 23 лютага – у 14:30
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Белка і Стрэлка: Прыгоды на Месяцы**", 3D (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
22, 23 лютага – у 12:30
Кошт білета – 20 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Цудадзейны лес**" (Францыя, 2012, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22, 23 лютага – у 15:30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Ваенная драма "**Мэту бачу**" (Расія, 2013, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22 лютага – у 17:30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Баявік, камедыя "**Агент пад прыкрыццём**" (ЗША, 2012, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
21 лютага – у 21:30
22, 23 лютага – у 19:30, 21:30
24-26 лютага – у 21:30
27 лютага – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Драма "**Апошняя гульня ў ляльі**" (Расія, 2010)
21 лютага – у 19:30
22, 23 лютага – у 17:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама "**Дыяна: Гісторыя кахання**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2013)
25, 26 лютага – у 19:30
27 лютага – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

**Рэпертуар на люты**

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Парася, якое спявае, або Нам нельга без сябра**" (музычная казка-жарт у 2-х дзеях), *Сяргей Казлоў*
26 лютага – у 11:00

"**Залатое сэрцайка**" (спектакль-гульня па матывах казак Арлова), Святлана Навуменка
28 лютага – у 11:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Вечар**" (лірычная меладрама), Аляксей Дудараў
21 лютага – у 19:00

"**Псіхааналітык для псіхааналітыка**" (шчырая камедыя для дарослых у 2-х дзеях), Дыяна Балыка
22 лютага – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-е-льмі сур'ёзная камедыя), Святлана Бартохава
28 лютага – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Васіліса Прыгажуня**", *К.Чарняк*
23 лютага – у 12:00

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## ● ГАРАСКОП (21-27 ЛЮТАГА)


**Авен.** Не трэба прымаць рашэнні, імкнучца камусьці штосьці даказваць. Вам неабходна адпачываць і радавацца таму, што маеце. Для маладых і адзінокіх гэта спрыяльны час, калі можна завесці новае знаёмства.


**Цялец.** Ваша нерашучасць замаруджвае поспех у справах. Можа здасца, што выхаду ў жыццёвых праблемах няма. На самой справе, вы проста перабольшваеце іх. Адпачніце, усё наладзіцца.


**Блізняты.** Вы ў гэты час, як кажуць, будзеце на кані. Будзеце вышэй за многія праблемы і непрыемнасці. Галоўнае – унутраная ўпэўненасць у сабе.


**Рак.** Ведайце, што толькі агрэсія ўнутры вас прыводзіць да хвароб, няшчасцяў і ўсяго таго дрэннага, што можа здарыцца з вамі.


**Леў.** Падключыце да вашых ідэй творчы складнік – тады вас чакае фантастычны поспех. Зоркі раяць на накопліваць у сабе негатыўныя эмоцыі, а даваць ім выхад, дапамагаючы тым самым сваёй нервовай сістэме.


**Дзева.** Не заглядвайцеся на чужое шчасце, лепш беражыце сваё. Кантралюйце свой эмацыйны стан, каб не патрапіць у далікатнае становішча і не пасварыцца з блізкімі.


**Шалі.** Уявіце сабе толькі, што вы можаце кардынальна памяняць у сваім жыцці ўсё тое, што вас не задавальняе, проста адной сілай думкі.


**Скарпіён.** Дарыўце блізкім людзям памылкі. Падтрымлівайце іх у цяжкую хвіліну, праяўляючы клопат і любоў. А іншым не дазваляйце ўмешвацца ў ваша ўласнае жыццё.


**Стралец.** І хаця вы творчыя і мэтанакіраваныя, але ў вас ёсць адзін недахоп – лянота. І менавіта яна перашкаджае вам пакараць вяршыні.


**Казярог.** Вам трэба падвесці вынікі, што было зроблена ў апошні час, а затым прадумаць план дзеянняў на бліжэйшы. І пазбягайце сутыкненняў з блізкімі, бо нават дробныя крыўды могуць вылііцца ў цяжкія сваркі.


**Вадалей.** Не будзьце такімі сур'ёзнымі. Дазвольце хоць некаторы час быць легкадумнымі. Гэта дапаможа завесці новыя знаёмствы. Працы ў гэты час будзе нямала, але такая загружанасць з'ява часовая.


**Рыбы.** Смела развівайце творчую і прафесійную дзейнасць, вынік не прымусіць сябе чакаць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень 27



## НАДВОР'Е

**22 лютага, субота**

| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | +3 / +4 | +2 / +3 | +4 / +4 | +3 / +2 |
| | 739 → 1 | 738 ↖ 8 | 742 ← 2 | 746 ↖ 6 |
| Вільня | +2 / +4 | +3 / +3 | +3 / +2 | +1 / +4 |
| | 747 ↑ 2 | 746 ↖ 6 | 752 ↙ 4 | 754 ↖ 6 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.16
Захад 18.35
Даўжыня дня 10.19

Усход 2.15
Захад 11.07
Квадра 4




## ПРЫКМЕТЫ

- 23 лютага – Прохар, 24 лютага – Улас. "Прыйшоў Прохар ды Улас – скора вясна ў нас". Ласі скідаюць рогі.
- Зіма цёплая – сіроцкая.

## ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Кожны пяты пешаход на дарозе – п'яны

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 21 да 23 лютага маладзечанская дзяржаўтаінспекцыя ладзіць спецыяльную аперацыю "Пешаход!"**

Інспектары ДАІ будуць асабліва пільна сачыць за кіроўцамі, што не даюць перавагу пешаходам, а таксама адсочваць выпадкі, з-за якіх адбываецца аварыйная абстаноўка. Не застануцца без увагі і самі пешаходы, якія парушаюць правілы пераходу дарогі. Да ўсіх парушальнікаў прыменяць самыя строгія адміністрацыйныя меры.

Дзяржаўтаінспекцыя раіць кіроўцам не перавышаць хуткасць, трымаць дыстанцыю, быць максімальна пільнымі, асабліва каля населеных пунктаў, дзе ў любы момант можа ўзнікнуць пешаход.

Пешаходы! Насіце флікеры ў цёмны час сутак.

Шмат аварый здараецца з-за таго, што правілы дарожнага руху парушаюць пешаходы. Паводле статыстыкі, кожны пяты пешаход на дарозе – нецвярозы.

За гэты год на Міншчыне было 62 ДТЗ, у якіх 11 чалавек загінулі, 73 атрымалі цялесныя пашкоджанні. Дзве аварыі адбыліся па віне нецвярозага кіроўцы. На Маладзечаншчыне было пяць ДТЗ, у якіх шэсць чалавек атрымалі пашкоджанні.

Калі вы заўважыце на дарозе ці каля яе нецвярозых пешаходаў, паведамляйце па тэлефоне **8(0176)77-16-56** ці **102**. Ваш званок дапаможа захаваць жыццё!

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**



Фота Наталі ТУР.

**Аварыя каля 18 гадзін 19 лютага на перакрыжаванні каля гімназіі №6.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Што рабіць, калі вам "пашанцавала" з суседзямі: свідруюць, затапляюць ці нават абражаюць. Як дзейнічаць па законе? Высвятляем у наступным нумары "РГ".**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 8 (982) 21.02.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 150. Падпісана ў друк у 10.00 20.02.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.